Ён быў у ліку заснавальнікаў Таварыства вольных літаратараў (ТВЛ) і — сурэдактарам знакамітага тэвээлаўскага часопісу «Калосьсе».

У адным з інтэрвію Юры агучыў асноўную мэту ТВЛ: «Мы нічога не зьбіраемся адмаўляць і разбураць. Наша задача — максымальна рэалізавацца ў дадзеным часе й прасторы».

Ужо ў нашы дні — дзякуючы Алесю Аркушу — Гумянюк апынуўся сярод галоўных герояў раману «Мясцовы час», дзе ажываюць асобы і зьявы канца васьмідзясятых — пачатку дзевяностых гадоў мінулага стагодзьдзя.

Пасьля апетых Аркушам часоў надыйшлі іншыя... Стаўленьне да новай рэчаіснасьці, якую Юра ня мог прыняць, ён сфармуляваў у вядомым вершы-баевіку «Спэрма прэзыдэнта». Гэта быў адказ тым, хто імкнуўся загнаць у сутарэньні андэграўнду тое, чым ён жыў, — літаратуру, мову, на якой яна ствараецца, незалежнае мастацтва...

Яму назаўсёды засталося 43. Гэты век, як і 37, лічыцца для творчай асобы небясьпечным.

Таямніцу свайго сыходу ён забраў з сабой. Хадзілі глухія чуткі пра вярбоўку. Шмат каму ў астатнія месяцы ён казаў, што яго хутка заб'юць. Яшчэ раней Юра чамусьці спаліў усе лісты ад сяброў.

І ўсё ж, калі я спрабую ўявіць ягоны палёт зь дзявятага паверху, то думаю менавіта пра палёт, а не пра падзеньне. І чую, чую Юраў голас:

*Рассачыцца ў нябеснай сінечы,*
*Як мэтафары ў плыні радкоў?..*

На маім стале другая Юрава пасьмяротная кніга — «Краіна нязьдзейсьненых мараў».

Так называлася краіна, у якой ён жыў.

**Юры Гумянюк**

24.9.1969, Горадня — 19.1.2013, Горадня.

Палітолягу, выдатнаму аналітыку Віталю Сіліцкаму заўсёды будзе трыццаць восем.

Адказваючы за некалькі гадоў да свайго такога раньняга сыходу на пытаньне анкеты: «Што значыць быць беларусам?» — ён напісаў: жыць у Беларусі, размаўляць пабеларуску, любіць Беларусь, дбаць пра Беларусь. Любіць для яго й азначала — дбаць.

У васямнаццаць ён з дакладам, прысьвечаным дэмакратычным зьменам ува Ўсходняй Эўропе, стаў пераможцам усесаюзнай алімпіяды юных сацыёлягаў. Надыходзіў час самому прысьпешваць гэтыя зьмены ўчынкамі й навуковымі штудыямі.

# Віталь Сіліцкі

У яго ўсё атрымлівалася на «выдатна». БДУ — дыплём сацыёляга. Цэнтральнаэўрапейскі ўнівэрсытэт у Будапэшце — магістар паліталёгіі. Ратгэрскі ўнівэрсытэт у ЗША — ужо доктар. Супрацоўніцтва ў інтэрнэт-газэце Naviny.by і «Нашай Ніве». Заснаваньне адной з самых аўтарытэтных аналітычных структураў краіны — Беларускага інстытуту стратэгічных дасьледаваньняў.

Ён пакінуў гэты сьвет у чорнае лета 2011 году, калі мы ледзь ня кожны тыдзень разьвітваліся з тымі, хто, як і ён, плённа працаваў дзеля той Беларусі, якая нам пакуль толькі сьніцца. Філёзаф Уладзімер Конан, гісторыкархівіст Віталь Скалабан, зусім маладыя — бліскучы гістарычны картограф Віктар Цемушаў, гісторык і паэт Эдуард Мазько, мастацтвазнаўца Юрась Малаш, гісторык Вольга Рамановіч, што пераклала два тамы францускамоўных мэмуараў Міхала Клеафаса Агінскага, Васіль Храмцоў, адзін з тых, на кім трымалася беларушчына на Полаччыне... Кожны быў непаўторны, а хтосьці — незаменны.

Пасьля ўсяго, што здарылася зь Беларусьсю ў XX стагодзьдзі, слой нашай інтэлігенцыі застаец-



ца вельмі тонкім. Гэта значыць, даводзіцца ўскладаць на сябе абавязкі і справы, прызначаныя не для аднаго чалавека. Ня кожны здольны несьці такую ношу бясконца...

«Я паміраю. Прашу: зрабіце ўсё, каб жылі тыя ідэі, якімі я жыў», — сказаў ён сябрам у адзін з апошніх дзён.

У Цэнтральнаэўрапейскім унівэрсытэце заснаваная стыпэндыя яго імя для беларускіх студэнтаў. Інстытут эўрапейскіх навук у Славаччыне й Беларускі інстытут стратэгічных дасьледаваньняў стварылі сваю стыпэндыяльную праграму імя Сіліцкага.

Сябры заснавалі Фонд Сіліцкага, выдалі ягоную кнігу «Адкладзеная свабода» і падрыхтавалі наступную — «Доўгая дарога ад тыраніі».

Калегі і вучні называлі яго лідэрам навуковага аналізу, які вывучаў Беларусь у кантэксьце ўсясьветнай паліталягічнай навукі, нязьменна прапускаючы праблемы ня толькі праз розум навукоўца, але і праз сэрца патрыёта.

А для мяне Віталь быў яшчэ й апантаным футбольным заўзятарам. Ці здолеў ён пабачыць гістарычную гульню БАТЭ зь мюнхэнскай «Баварыяй», калі нашы выйгралі 3:1?..

**Віталь Сіліцкі**

25.12.1972, Менск — 11.6.2011, Менск.

Пахаваны на могілках у пас. Калодзішчы, Менскі раён.

У той вечар я глядзеў у Купалаўскім тэатры спэктакль «Офіс». Там, у офісе, і адбывалася дзеяньне. Супрацоўнікі бясконца прыходзілі на працу, і з сцэны гучала: «Добрай раніцы! Добрай раніцы». Няма, падумалася мне, на іх Юры Бушлякова, які пераканаўча давёў, што ў нашым моўным этыкеце гэтае вітаньне не традыцыйнае, а — калька савецкіх часоў.

У гэты момант і прыйшла эсэмэска пра Юраву сьмерць.

Калі б у беларускім мовазнаўстве, як у спорце або палітыцы, таксама існавалі рэйтынгі, Бушлякоў, у маім уяўленьні, заўсёды знаходзіўся б, калі не на самым высокім месцы, то, прынамсі, не ніжэй за першую тройку.

# Юрась Бушлякоў



Ён наогул быў зорным — спачатку хлопчыкам, потым мужчынам. Скончыў з чырвоным дыплёмам філфак Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, дзе ў 1990-м стаў, па словах сябра й аднагрупніка Валерыя Булгакава, амбасадарам беларушчыны. Абараніў бліскучую дысэртацыю на тэму «Моватворчая практыка Янкі Станкевіча».

Пералік месцаў, дзе Бушлякоў працаваў, уражвае: Белдзяржунівэрсытэт, Беларускі гуманітарны ліцэй, Радыё 101,2 і Радыё «Рацыя», газэта «Наша Ніва», Радыё Свабода, Карлаў унівэрсытэт у Празе...

Хтосьці зь недасьведчаных раптам падумае: «лятун». Для такіх тлумачу: незалежнае Радыё 101,2 «часова», што азначала назаўсёды, пазбавілі этэру (узятае Юрам

у мяне інтэрвію патрапіла ў лік апошніх перадачаў), ліцэй афіцыйна зачынілі...

Ягоны талент журналіста і мовазнаўцы ў адной асобе, ды яшчэ разам зь непаўторным «аксамітным» голасам, стаў для Беларускай службы Радыё Свабода шчасьлівым і дарагім падарункам. Праграму Бушлякова «Жывая мова» я таксама не магу назваць іначай, чым зорнай.

Юрась нічым не нагадваў чалавека, цалкам зацыкленага на сваім асноўным занятку.

Ён знаходзіў час на клясныя літаратурныя пераклады — Эдгара Алана По, Чэслава Мілаша, Зьбігнева Гэрбэрта, Вітальда Гамбровіча, Яраслава Сэйфэрта. Быў жывой спартовай энцыкляпэдыяй, заўсёды беспамылкова ўзгадваючы ня толькі чэмпіёнаў і прызёраў, але і пераможцаў у асобных футбольных гульнях, агульны лік і аўтараў галоў.

З старэйшых клясаў, калі Юрась лічыўся найлепшым вучнем на ўроках фізкультуры і натхнёна «цягаў жалеза», ён быў увасабленьнем чалавека вельмі моцнага фізычна.

І тут — тая радзімка, што змусіла зьвярнуцца да мэдыкаў...

Пэсымістычны прагноз адводзіў яму ўсяго год. Юра змагаўся чатыры. І як ваяваў! Менавіта ў гэты час каханая жанчына Таццяна нарадзіла яму сына Яна Міхала.

Жыцьцё Юрася Бушлякова працягваецца і ў кнізе «Жывая мова», якую ён дасканаліў да сваіх астатніх дзён.

Кажуць, любой моваю можна авалодаць за тры месяцы, адно родную трэба вучыць усё жыцьцё. Цяпер я займаюся гэтым зь Юравай кнігай.

**Юрась Бушлякоў**

29.5.1973, Менск — 4.6.2013, Менск.

Пахаваны на менскіх Паўночных могілках.

Калі ў менскім Доме літаратара гучна адзначалася 10-годзьдзе творчага руху «Бум-Бам-Літ», вечарыну пачалі з ушанаваньня памяці Дзяніса Хвастоўскага.

*Як ляціш — ня сьпі —*
*Зорачку схапі...*

— напісаў ён аднойчы. Гэтыя вясёлыя й, на першы погляд, легкадумныя словы можна лічыць жыцьцёвым credo паэта.

# Дзяніс Хвастоўскі

У школе Дзяніс, выклікаючы энтузіязм зусім ня ў кожнага настаўніка, зацята карыстаўся нерэфармаваным беларускім правапісам.

*Палітыкі, ня лезьце да Гісторыі.*
*Бо вы Яе ня варты.*
*Запхніце свае карты*
*сабе ў лябараторыі!*

— заклікаў Хвастоўскі, калі вучыўся на гістарычным факультэце БДУ, дзе выдаваў рукапісную газэту «Пан Панк». Адначасова з удзелам у вечарынах і пэрформансах «Бум-Бам-Літу» ён уваходзіў тады ў моладзевую супольку «Выбранецкія шыхты», якая прычынілася да пачатку масавага цяпер у Беларусі рыцарскага руху.

Дзяніс быў чалавек разьняволены і надзвычай іранічны.

Ён захапляўся беларускім, кельцкім і проста дзіцячым фальклёрам. Аднойчы ён прыдумаў сабе старадаўні шатляндзкі радавод.

У яго былі свае прыхільнікі й зласьліўцы. Адзін з апошніх напісаў у сеціве, што ён не аматар вершаў кшталту:

*Я стары рагаты лось,*
*Ты мяне прапылалась.*

Мяркуючы з інтэрнэт-водгукаў, аматараў было ўсё ж больш. У чаканьні іхніх лістоў Дзяніс у адным зь вершаў падаў свой адрас:

*А каб лістом маім сагрэцца,*
*Для Вас мой адрас вось такі:*
*Краіна Спаленага сэрца,*
*Сяло Старыя мастакі.*

Яму было толькі дваццаць пяць...

Ён памёр у рэанімацыі пасьля падзеяў, пра якія сваякі дагэтуль адмаўляюцца гаварыць.



Літаратуразнаўца Аксана Бязьлепкіна піша, што Хвастоўскі, «вершы якога можна лічыць своеасаблівым сынтэзам фальклёрнай паэтыкі з іранічным «патасам» сучаснасьці, пасеяў у беларускай літаратуры свае ўчэпістыя радкі».

Празь пяць гадоў пасьля таго, як ён адыйшоў у «краіну Спаленага сэрца», у незалежным выдавецтве «Логвінаў» выйшла Дзянісава кніга «Лугназад».

**Дзяніс Хвастоўскі**
13.1.1976, Менск — 25.7.2001, Менск.
Пахаваны на менскіх Чыжоўскіх могілках.

Выдатныя здольнасьці й неверагодная працавітасьць, памножаныя на апантанасьць новымі інфармацыйнымі тэхналёгіямі, прывялі яго спачатку на студэнцкую стажыроўку ў ЗША, а потым у Амэрыканскі ўнівэрсытэт у баўгарскім Благоеўградзе. Там Каткоўскі вывучаў кампутарнае праграмаваньне й журналістыку.

У сяброўскіх размовах пра Каткоўскага і ў яго-ных афіцыйных характарыстыках нельга абыйсьціся бяз слова «першы». Ён стаў адным зь першых айчынных інтэрнаўтаў і адным зь першых беларускамоўных блогераў. Першым узяўся за беларусізацыю пошукавіку Google. Яго называлі першым інтэрнэт-амбасадарам Беларусі. І сапраўды ў розных кутках сьвету я сустракаў людзей, якія першае ўяўленьне пра нашую краіну атрымалі дзякуючы Каткоўскаму, вядомаму ў Сеціве як ridel23 і BR23.

# Уладзімер Каткоўскі



Уладзя быў самым маладым супрацоўнікам Беларускай службы Радыё Свабода і першым у яе гісторыі вэб-майстрам, якога ўзялі на працу выключна ў такой ролі.

Дырэктар беларускай Свабоды Аляксандар Лукашук кажа, што Ўладзевы праекты часта апярэджвалі магчымасьці тэхнічнага аддзелу, і такім чынам Каткоўскі прымушаў усіх рухацца наперад. Вынікам сталася бясспрэчнае лідэрства сайту нашага радыё сярод двух дзясяткаў рэдакцыяў. У сакавіку 2006 году, падчас пратэстаў на менскай плошчы Каліноўскага, сайт Свабоды наведала чвэрць мільёну чалавек.

Уладзевым клопатам былі таксама беларуская Вікіпэдыя, сайты «Мартыралёгу Беларусі» і *Pravapis.org*. Ён радаваў сваімі перакладамі, сярод якіх — фрагмэнты «Кнігі Сьмеху й Забыцьця» Мілана Кундэры.

Мне выпала двойчы на пару з Уладзем удзельнічаць у радыйных анлайнавых канфэрэнцыях. У памяці і сёньня жывое аблічча прыгожага юнака з набрынялымі анталягічнай сумотаю вачыма інтравэрта, якія зьнячэўку маглі зазьзяць адкрытасьцю й неверагоднай прыязнасьцю. Я сказаў бы, што ён валодаў кампутарам ня проста дасканала, ён абыходзіўся зь ім элегантна і віртуёзна. Здавалася, я толькі фармулюю адказ, а ён ужо сканчваў яго набор...

У 2006-м партал TUT.BY прысудзіў Каткоўскаму Гран-пры конкурсу беларускіх кантэнт-праектаў. Гэта быў заслужаны падарунак да 30-годзьдзя «патрыярха» Белнэту.

Уладзя не пасьпеў атрымаць узнагароду. За тры дні да круглай даты ён трапіў на праскай вуліцы ў катастрофу й апынуўся ў коме.

Ягонае існаваньне доўжылася яшчэ амаль цэлы год. Хочацца верыць, што ўвесь гэты час Уладзя быў *тут*.

Шмат распавяла мне ўбачаная праз колькі месяцаў старонка зь яго нататніку з контравэрсійнымі парамі словаў: *Эўразія — Эўропа / Рускае праваслаўе — Свабода рэлігіяў / Манаполія — Канкурэнцыя / Пародыя — Аўтэнтыка / Абыякавасьць — Талерантнасьць / Самагон — Крамбамбуля / Дэпрэсія — Аптымізм / Страх — Мужнасьць / Краты — Воля...*

Калі я выходжу ў Сеціва, у мяне кожны раз узьнікае адчуваньне сустрэчы з Уладзем.

**Уладзімер Каткоўскі**
19.6.1976, Менск — 25.5.2007, Прага.
Пахаваны на менскіх Пятроўшчынскіх могілках.

Адно з маіх наймацнейшых уражаньняў ад летніх вандровак па Беларусі зьвязанае з прынарачанскім возерам Глубля.

Мы ішлі па беразе, і раптам побач са сьцежкаю сярод папараці вырас камень з словамі, што паведамлялі вусьцішную зьвестку: тут, атруціўшыся цыкутай, памёр зусім малады хлопец Міхал.

Надпіс на гэтым незвычайным лясным помніку зьвяртаўся да падарожнікаў: «Памаліцеся за яго і беражыце сябе».

# Міхал Шарамет



На мяне павеяла антычнасьцю і больш блізкай, сваёй гісторыяй — згадаліся сыход Сакрата й запаветы вальнадумцаў Каспара Бекеша й Казімера Лышчынскага.

Але я ведаў і гэтае імя — Міхал Шарамет.

Я памятаў Міхала на чале маладафронтаўскай дружыны.

Ён стварыў вайскова-патрыятычую арганізацыю «Ваяр», якая сталася спадкаеміцай «Краю» і з канца 1990-х да сярэдзіны 2000-х абараняла моладзь на масавых акцыях.

Колішні кіраўнік Маладога Фронту Павал Севярынец распавядае, што Шарамет быў сапраўдным прафэсіяналам сваёй справы: выдатна ладзіў летнікі, вышкалы з палосамі перашкодаў, спартовыя турніры...

Іншага ягонага паплечніка — Сержука Бахуна — уражвала высокая Міхалава эрудыцыя, асабліва ў гісторыі й мове.



Помнік на месцы гібелі Міхала Шарамета

Кажуць, Шарамет пасьпяхова замяняў кампутарнага рэдактара: глянуўшы на беларускамоўны тэкст, адразу лавіў усе артаграфічныя й стылёвыя памылкі.

Міхал займаўся прамысловым альпінізмам, гэта значыць, выконваў заданьні на вышыні.

У свой час ён працаваў у міністэрстве надзвычайных сытуацыяў. Ня раз выносіў людзей з полымя, але не любіў гаварыць пра гэта.

Калегі-выратавальнікі не здагадваліся, што побач зь імі выяжджае на выклікі адзін зь легендарных няўлоўных Міронаў, якія зноў і зноў адважна ўздымалі нашы нацыянальныя сьцягі ў самых, здавалася б, недаступных месцах.

Выратаваўшы многіх іншых, Шарамет ня змог уратавацца сам...

Ён быў зь сябрамі ў паходзе на байдарках. Прыхільнік мэтадаў экстрэмальнага выжываньня, Міхал заўсёды шукаў ядомыя расьліны. У ручаіне ўбачыў некалькі каранёў, якія здаліся яму знаёмым вадзяным тапінамбурам.

Праз гадзіну яго беларускае сэрца спынілася.

Краіну, дзеля якой ён жыў, павінен убачыць Міхалаў сын Алесь.

**Міхал Шарамет**
27.2.1982, Менск —
21.4.2013, бераг возера Глубля, Мядзельскі раён.
Пахаваны на могілках у в. Захарычы, Менскі раён.

Анойчы ў філёзафа запыталіся, што такое шчасьце. «Памерці за Радзіму», — адказаў філёзаф. Потым, крыху падумаўшы, дадаў: «Шчасьце — гэта пражыць жыцьцё ў дастатку й памерці з годнасьцю». Філёзаф быў шасьцігадовай беларускай дзяўчынкай Ганначкай Уланавай.

Настольнаю кнігай сямігадовай дзяўчынкі была Біблія...

Ганьніны бацькі згадваюць, што вельмі часта ўзьнікалі сытуацыі, калі не яны выхоўвалі дзяўчынку, а, наадварот, тая, зноў і зноў уражваючы недзіцячым поглядам на рэчы, давала ўрокі дарослым. Дзякуючы Ганьне яе расейскамоўная сям'я вывучыла беларускую мову й сур'ёзна зацікавілася нацыянальнай гісторыяй.

# Ганна Ўланава



Падцягвала Ўланава й сваё гімназічнае атачэньне. І ня толькі ведамі — стаўленьнем да роднага слова, да веры, да хрысьціянскіх каштоўнасьцяў. Погляды й прынцыпы Ўланавай падабалася ня ўсім.

Яе мама Таццяна з болем згадвае, як Ганусі на школьных вечарах не дазвалялі сьпяваць са сцэны. Рэч была не ў адсутнасьці здольнасьцяў: дзяўчынка сьпявала ў хоры Чырвонага касьцёлу, у намінацыі «музычны твор» стала дыплямантКай конкурсу «Маці Божая Будслаўская ў маім жыцьці й жыцьці

Бацькаўшчыны». Прычына забароны палягала ў іншым: Ганна хацела сьпяваць *па-беларуску*. У вачах дырэкцыі гэтае жаданьне разам зь бел-чырвона-белым значком, які насіла дзяўчынка, выглядала амаль злачынствам.

Ганначка сама складала сцэнар уласнага жыцьця. Таму ў ім цяжка знайсьці нешта выпадковае.

Дзяўчына ня проста думала па-беларуску. Яна думала па-беларуску ў нацыянальным маштабе.

Зьбіралася напісаць сцэнар мастацкага фільму паводле «Каласоў пад сярпом тваім» Уладзімера Караткевіча. Плянавала ўзяцца за кнігу, прысьвечаную змаганьню за свабоду Беларусі ў найноўшай гісторыі. Мела запаветную мару пра незалежны беларускі тэлеканал.

Але найперш Ганна марыла выдаваць духоўны часопіс для моладзі, у руках якой будучыня Беларусі. Яшчэ гімназісткай яна абрала месца далейшага навучаньня — Варшаўскі ўнівэрсытэт Стэфана Вышынскага.

Атрымаўшы атэстат сталасьці, паехала з мамай у Варшаву, каб трапіць на размову да рэктара. Пасьля сустрэчы зь ім Ганна пачула, што залічаная без экзамэнаў.

А перад тым была выпускная гімназічная вечарына, дзе Ганна — у белай сукенцы, аздобленай чырвонымі ружамі — усё ж прасьпявала па-беларуску палянэз Агінскага «Разьвітаньне з Радзімай». Але шэрасьць ды подласьць і тут паказалі твар: настаўніца музыкі, зь якой усё было дамоўлена, у апошні момант ня выканала абяцаньня і не ўключыла музычнае суправаджэньне...

Ганна Ўланава пакутавала ад іншай хваробы, але памерла таму, што яе зраненаму і збалеламу сэрцу хранічна неставала кіслароду мовы і свабоды.

Quem Deus amat, iuvenis moritur — той, каго любіць Бог, памірае маладым...

**Ганна Ўланава**

20.5.1985, Менск — 30.08.2004, Менск.

Пахаваная на могілках у пас. Калодзішчы, Менскі раён.

Жыць дзеля высокай ідэі цяжэй, чым за яе памерці. Магчыма, я цалкам пагадзіўся б з такой думкаю, каб не адно але. Гісторыя сьведчыць, што — каб жыла сама ідэя — за яе хтосьці павінен паміраць.

Гаворка пра свабоду.

Мы не былі знаёмыя зь Міхалам, хоць ён зь ягонай цікавасьцю да гісторыі мог бываць на маіх сустрэчах з гомельскімі чытачамі.

Пасьля школы хлопец вучыўся на газазваршчыка, рэканструяваў сярэднявечныя панцыры ў рыцарскім клюбе, займаўся каратэ і... дапамагаў свайму духоўнаму настаўніку айцу Ўладзімеру падчас набажэнстваў у царкве. Міхал не хаваў плянаў пасьля службы ў войску пайсьці ў Жыровіцкі манастыр. Усё сьведчыла пра неардынарнасьць асобы й абяцала нешараговы лёс.

# Міхал Жызьнеўскі



І раптам сямнаццацігадовы Міхал загадкава зьнік. Родныя спрабавалі знайсьці яго нават праз тэлеперадачу «Чакай мяне». Наконт таго, чаму ён пакінуў родны дом, існуюць розныя вэрсіі. Можа, я і памыляюся, думаючы, што юнак шукаў свой шлях. Або шлях — яго.

Але яны знайшлі адзін аднаго.

Бацькі даведаліся, што сын ува Ўкраіне. Міхал уступіў у вядомую радыкальную арганізацыю ЎНА-ЎНСО. Сябры кажуць, што Жызьнеўскі, які ў гонар героя скандынаўскай міталёгіі ўзяў сабе мянушку Локі, быў сапраўдным байцом, аднак ніколі не выкарыстоўваў сілу без патрэбы і меў абвостранае пачуцьцё справядлівасьці.

А яшчэ ўсе згадваюць, што ён меў улюбёную ўкраінскую песьню — «Гэй, плыве кача па Тисині».

У падзеях украінскай рэвалюцыі, што застануцца ў гісторыі як Эўрамайдан, Міхал браў удзел ад першых дзён. Ён ахоўваў занятыя пратэстоўцамі будынкі, дзяжурыў у намётах, зьбіраў самую сьвежую інфармацыю для газэты «Соборна Київщина».

Пасьля жорсткага разгону і зьбіцьця студэнтаў сіламі спэцназу атмасфэра Майдану, якую раней параўноўвалі з карнавальнай, рэзка зьмянілася.

...Беларус Жызьнеўскі стаўся другой ахвяраю ў ліку тых, каго ўкраінцы назавуць «Нябеснай сотняй». На шасьцідзясяты дзень пратэстаў, у часе сутыкненьняў зь «Беркутам» на вуліцы Грушэўскага, куля снайпэра, прабіўшы драўляны шчыт, трапіла Міхалу ў сэрца.

Кіеў разьвітваўся зь ім на 26-ы дзень нараджэньня. Паэт і палітык Уладзімер Някляеў, які ішоў у жалобнай працэсіі, казаў пра 100 тысяч удзельнікаў, якія раз-пораз пачыналі скандаваць: «Дзякуй, Беларусь!»

Пахаваньне Міхала Жызьнеўскага ў роднай беларускай зямлі сабрала блізу пяцідзесяці чалавек. Яго-нае цела накрылі сьцягам УНА-ЎНСО, а труну — бел-чырвона-белым палотнішчам. Прэзыдэнт Пятро Парашэнка асабіста ўручыў Міхалавым бацькам ордэн Героя Нябеснай сотні.

Побач зь месцам гібелі Міхала адкрыты помнік. Пад вечна маладым абліччам героя высечаныя словы:

*По серце в крові Україна.*
*По очі в сълозах Білорусь...*
*Коли убивають сина —*
*Тоді оживає дух...*

**Міхал Жызьнеўскі**
26.1.1988, Гомель — 22.1.2014, Кіеў, Украіна.
Пахаваны ў в. Сьцяг Працы, Гомельскі раён.

## Аўгіньня Дзянісава

Яна была добрай вядзьмаркай: вучыла мяне ня спаць, калі сядае сонца, і не любіцца зь дзеўкамі ў жыце і ў красках, бо колькі каласоў зломіш — столькі людзей ад голаду сканае, а колькі красак зьвяне — столькі дзетак на сьвет не народзіцца.

Яна таемна ахрысьціла нас зь сястрычкай Таняй, дзяцей пракурора і настаўніцы, у Копыскай царкве (той самай, дзе чамусьці не пахрысьцілі аднаго вядомага цяпер Сашу) і купіла нам крыжыкі, якія скрала, адʼяжджаючы па камсамольскай пуцёўцы на цаліну, нашая нянька.

Яна казала, што няможна хлусіць, бо пачуе сьвяты Мікола з абразоў — і будзеш сікацца ўначы. А калі раённы начальнік, кватаруючы ў бабулі, загадаў зьняць «иконы», то пачуў рашучы, з намёкам адказ: «Яны ў цябе есьці ня просяць».

Бабуля Аўгіньня была мамінай мамай і ўдавой дзеда Максіма — «ворага народу», расстралянага ў 1933-м у магілеўскіх карʼерах за ўдзел у контрарэвалюцыйнай арганізацыі, хоць пра гэта я тады нічога ня ведаў. Яна, непісьменная, усё жыцьцё ставіла ў калгасных ведамасьцях крыжыкі, але мне здаецца, што я сустракаў на сваім шляху няшмат людзей, адукаванейшых за яе.

Бабуля была маёй першай і найлепшаю настаўніцай беларускай мовы.

І першай настаўніцай гісторыі.

Яна расказвала пра добрага пана з суседняе вёскі, у якога служыла ў маладосьці пакаёўкай і які меў вясёлае ці то прозьвішча, ці то мянушку — Брынка. І пра першых старшыняў тамтэйшага калгасу, якіх «па-вулічнаму» называлі Раўло і, перапрашаю, Галасрака. Яна апавядала пра партызанаў, што прыходзілі забіраць схаваную ў сене бабуліну і маміну зь сястрычкамі кароўку-карміцельку, але тая, усё разумеючы, стаіла дыханьне й ня выдала сябе.



Ад бабы Аўгіньні я атрымаў першую, яшчэ неўсьвядомленую, прышчэпку праўды і вальнадумства. Менавіта бабуля нарадзіла ў маёй душы здаровы скепсіс да таго, што ад відна да відна гучала тады з прыбітага на слупе каля яе хаты хрыпатага радыёрэпрадуктару. «Дагонім, дагонім... — казала бабуля, чуючы бясконцае зьвяганьне пра неабходнасьць дагнаць і перагнаць Амэрыку. — Босым бегчы лягчэй».

Яна ўпершыню пазнаёміла мяне, сямігадовага, зь сьмерцю. Калі бабуліна сэрца спынілася, я пабег на поле па цётак. «Бабушка заснула? Бабушка заснула?» — перапытвалі яны, а я скрозь сьлёзы, але цьвёрда сказаў: «Не заснула, а памерла».

Таемную бабуліну сілу я адчуваю і цяпер. У любы момант магу лёгка выклікаць з памяці ня толькі яе твар, але і голас, хаду, адчуваньне ейнай сухой моцнай рукі, што выводзіла ўнука ў вялікі, дзівосны і страшны сьвет.

Безь яе не было б мяне — вандроўніка ў прасторы й часе.

Безь яе не было б пісьменьніка Ўладзімера Арлова. А значыць — і гэтае кнігі.

**Аўгіньня Дзянісава**
1882, в. Капысіца, цяпер Шклоўскі раён —
1.6.1961, в. Капысіца.

# Паказьнік асобаў

## А

Абрамчык Базыль, прадзед Міколы Абрамчыка *258*

Абрамчык Мікола, палітык, дзеяч даваеннай і паваеннай эміграцыі ў Чэхаславаччыне й Францыі, у 1947—1970 гг. прэзыдэнт Рады БНР *107*, *258—259*

Абрамчык Янка, удзельнік нацыянальна-вызвольнага паўстаньня 1863—1864 гг., дзед Міколы Абрамчыка *258*

Абуховіч Альгерд, пісьменьнік і перакладчык, удзельнік нацыянальна-вызвольнага паўстаньня 1863—1864 гг., палітвысланец *76—77*

Абуховіч Міхал, дзяржаўны і вайсковы дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, мэмуарыст *76*

Абуховіч Піліп, дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, мэмуарыст *76*

Абуховіч Тодар, дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, мэмуарыст *76*

Абуховіч Юзаф, удзельнік вызвольнага паўстаньня 1794 г., дзед Альгерда Абуховіча *76*

Абэцэдарскі Лаўрэнці, савецкі гісторык *116*, *278*, *282*

Авілаў, супрацоўнік савецкіх карных органаў *437*

Агееў Валянцін, музыка *594*

Агінскі Міхал Клеафас, кампазытар, дыплямат, удзельнік вызвольнага паўстаньня 1794 г. *462*, *524*, *600*, *611*

Адамовіч Алесь, пісьменьнік і літаратуразнаўца, грамадзкі дзеяч, удзельнік нацыянальна-дэмакратычнага руху кан. XX ст. *388—389*, *423*, *560*

Адамовіч Аляксандар, дзяржаўны дзеяч, адзін з кіраўнікоў палітыкі беларусізацыі 1920-х у БССР, ахвяра сталінскіх рэпрэсіяў *234—235*

Адамовіч Антон, гісторык, літаратуразнаўца й пісьменьнік, палітвысланец 1930-х, дзеяч паваеннай эміграцыі ў Нямеччыне й ЗША, супрацоўнік Беларускай службы Радыё Свабода *286*, *302—303*

Адамовіч Язэп, дзяржаўны дзеяч, ахвяра перасьледу савецкімі спэцслужбамі *222—223*

Адамчык Вячаслаў, пісьменьнік *402*, *406*, *444—445*

Ажэшка Эліза, польская пісьменьніца, удзельніца нацыянальна-вызвольнага паўстаньня 1863—1864 гг. *59*

Акіншэвіч Леў, гісторык, удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху пач. XX ст.; перасьледаваны савецкімі спэцслужбамі; дзеяч паваеннай эміграцыі ў ЗША *228—229*
Акудовіч Валянцін, філёзаф, літаратар, удзельнік нацыянальна-дэмакратычнага руху 1980-х — пач. XXI ст. *451*, *498*
Акула Кастусь, пісьменьнік, журналіст, грамадзка-культурніцкі дзеяч паваеннай эміграцыі ў Вялікабрытаніі й Канадзе *378—379*
Акутагава Рунескэ, японскі пісьменьнік *417*
Алеша Юры, расейскі пісьменьнік *444*
Аляксандар II, расейскі імпэратар *86*
Аляксандар III, папа рымскі *76*
Аляхновіч Францішак, пісьменьнік і тэатральны дзеяч, удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху пач. XX ст., вязень ГУЛАГу, ахвяра нераскрытага забойства *130—131*, *143*, *188*, *211*, *274*, *330*, *528*
Андропаў Юры, старшыня КГБ, кіраўнік СССР *354*
Андрыёлі Міхал, мастак, удзельнік нацыянальна-вызвольнага паўстаньня 1863—1864 гг., палітэмігрант і палітвысланец *61*, *68—69*
Андэрс Уладзіслаў, генэрал, камандзір Польскай арміі ў Другой усясьветнай вайне *155*, *310*, *322*
Антонава-Мельяновіч Тацяна, журналістка, жонка Васіля Мельяновіча *453*
Арбузаў Аляксей, расейскі драматург *471*
Аркуш (Козік) Алесь, пісьменьнік, удзельнік нацыянальна-дэмакратычнага руху 1980-х — пач. XXI ст. *599*
Арлова (Аксак) Валянціна, паэтка, журналістка, жонка Ўладзімера Арлова *54*
Арлова Тацяна, сястра Ўладзімера Арлова *614*
Арлоў Аляксей, юрыст, бацька Ўладзімера Арлова *220*
Арлоў Арцём, дзед Уладзімера Арлова, ахвяра сталінскіх рэпрэсіяў *162*
Арлоў Багдан, сын Уладзімера й Валянціны Арловых *407*, *486*
Арлоў Раман, сын Уладзімера й Валянціны Арловых *422*, *486*
Арлоўскі Кірыла, супрацоўнік савецкіх карных органаў, партызанскі камандзір *232*
Арсеньнева Натальля, паэтка й перакладчыца, палітычная высланка 1940—1941 гг., дзяячка паваеннай эміграцыі ў Нямеччыне й ЗША, аўтарка вершу-гімну «Магутны Божа» *146*, *155*, *190*, *209*, *260—261*, *266*, *282*, *308*, *313*, *377*, *416*
Артур, кароль, легендарны правадыр брытаў *594*
Асіненка Мікола, удзельнік паваеннага антысавецкага Супраціву, вязень ГУЛАГу, муж Ніны Асіненка *424*, *425*

Асіненка Ніна, удзельніца паваеннага антысавецкага Супраціву 1940-х, вязень ГУЛАГу *424—425*
Астапенка Зьмітрок, паэт, вязень ГУЛАГу *314—315*
Асташонак Алесь, пісьменьнік і перакладчык, удзельнік нацыянальна-дэмакратычнага руху 1980—1990-х *560—561*
Астрамовіч Аляксандар (Андрэй Зязюля), сьвятар, паэт, удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху пач. XX ст. *89*
Астраўцоў Алесь, перакладчык *245*
Астроскі Канстанцін, палкаводзец, дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага *447*
Астроўскі Радаслаў, палітык, пэдагог, дзеяч нацыянальна-вызвольнага руху пач. XX ст., удзельнік Слуцкага паўстаньня 1920 г. і нацыянальна-вызвольнага руху 1920—1930-х у Заходняй Беларусі, дзеяч паваеннай эміграцыі ў Нямеччыне й ЗША *142*
Аўрам Смаленскі, асьветнік, сьвяты *590*
Афанасі Філіповіч, пісьменьнік, рэлігійны дзеяч, сьвяты *442*
Аюнскі Платон, якуцкі пісьменьнік *501*

## Б

Бабарэка Адам, пісьменьнік і літаратуразнаўца, ахвяра сталінскіх рэпрэсіяў *451*
Бабіч Якуб, віленскі бурмістар, фундатар Францішка Скарыны *362*
Бабкова Вольга, пісьменьніца, гісторык *503*
Багдановіч Максім, паэт, удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху пач. XX ст. *88, 121, 141, 162, 178—179, 190, 203, 213, 308, 328, 361, 381, 449, 472, 476, 497, 568*
Багрым Паўлюк, паэт *47, 238*
Багушэвіч Станіслаў, дэпутат Сойму Рэчы Паспалітай, змагар супраць захопу земляў Вялікага Княства Літоўскага Расеяй *17*
Багушэвіч Францішак, паэт, удзельнік нацыянальна-вызвольнага паўстаньня 1863—1864 гг., пачынальнік нацыянальнага Адраджэньня *61, 102, 120, 182, 254, 255, 517, 543*
Бадунова Палута, палітык, удзельніца нацыянальна-вызвольнага й сацыялістычнага руху пач. XX ст., вязень польскіх бальшавіцкіх турмаў, палітэмігрантка, ахвяра сталінскіх рэпрэсіяў *138—139*
Бажко Алесь, правакатар *375*
Байкоў Мікола, лінгвіст, літаратуразнаўца, палітвязень *225*
Байран Джордж, ангельскі паэт *84, 240, 299*
Бакунін Міхаіл, расейскі рэвалюцыянэр *82*

Баліцкі Антон, дзяржаўны дзеяч, адзін з ініцыятараў і кіраўнікоў палітыкі беларусізацыі 1920-х у БССР, ахвяра сталінскіх рэпрэсіяў *170—171*

Бандынэлі Бача, італьянскі скульптар *76*

Банольдзі Ахіла, сьпявак і танцмайстар, удзельнік нацыянальна-вызвольнага паўстаньня 1863—1864 гг., палітэмігрант *56—57, 68*

Барадулін Рыгор, народны паэт Беларусі *108, 158, 454, 458—459, 471, 512, 521*

Баразна Лявон, мастак, удзельнік нацыянальна-культурніцкага руху 1960—1970-х, ахвяра таямнічага забойства *414—415, 480*

Бараноўскі Андрэй, удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху пач. XX ст. *104*

Баркоўскі Віталь, тэатральны рэжысэр *528*

Бароўка Ангеліна, удзельніца паваеннага антысавецкага Супраціву 1940-х, вязень ГУЛАГу *436—437*

Бартосік Зьміцер, бард, літаратар, журналіст, удзельнік нацыянальна-дэмакратычнага руху 1990-х — пач. XXI ст., супрацоўнік Беларускай службы Радыё Свабода *533*

Бартуль Вера, дзяячка паваеннай эміграцыі ў Вялікабрытаніі й ЗША *432—433*

Бартуль (Сокалава) Ганна, дачка Веры й Францішка Бартулёў *433*

Бартуль Францішк, дзеяч паваеннай эміграцыі ў Вялікабрытаніі й ЗША *344—345*, 413

Баршчэўскі Лявон, палітык, перакладчык, пэдагог, удзельнік нацыянальна-дэмакратычнага руху 1990-х — пач. XXI ст. *564*

Баршчэўскі Ян, пісьменьнік, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры *26—27, 34, 84, 158, 468, 491*

Басё, японскі паэт *516*

Батура Сьцяпан, вялікі князь літоўскі і кароль польскі *407*

Бахун Сяржук, грамадзкі актывіст, удзельнік нацыянальна-дэмакратычнага руху 1990-х — пач. XXI ст. *608*

Бачыла Алесь, паэт *325*

Бекеш Каспар, палітычны дзеяч, мысьляр *608*

Беларуска Леся, паэтка, ахвяра сталінскіх рэпрэсіяў *348—349*

Берыя Лаўрэнці, кіраўнік савецкіх карных органаў *183, 374*

Бітэль Ала, дачка Пятра Бітэля *327*

Бітэль Лія, дачка Пятра Бітэля *327*

Бітэль Ніна, жонка Пятра Бітэля *327*

Бітэль Пятро, паэт і перакладчык, вязень ГУЛАГу *326—327, 338*

Бобрык Янка, паэт, кінакрытык, муж Натальлі Вішнеўскай *287*

Борык Антон, удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху пач. XX ст. і Слуцкага паўстаньня 1920 г. *185*

Боцеў Хрыста, баўгарскі рэвалюцыянэр, паэт *82*
Броўка Пятрусь, паэт *428*, *499*
Брыль Янка, народны пісьменьнік Беларусі *310*, *311*, *340—341*, *462*
Брэдбэры Рэй, амэрыканскі пісьменьнік *153*, *562*
Брэжнеў Леанід, кіраўнік СССР *241*, *382*, *454*, *554*
Бугаёў Дзьмітры, літаратуразнаўца *485*
Будзінас Яўген, пісьменьнік, выдавец, прадпрымальнік, удзельнік нацыянальна-дэмакратычнага руху 1980-х — пач. XXI ст. *512—513*
Будны Сымон, асьветнік эпохі Рэфармацыі *338*
Буйла Канстанцыя, паэтка, удзельніца нацыянальна-вызвольнага руху пач. XX ст. *146*, *192—193*, *282*, *338*
Буйніцкі Ігнат, тэатральны дзеяч, удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху пач. XX ст., стваральнік беларускага прафэсійнага тэатру *90—91*, *103*
Булак-Балаховіч Станіслаў, вайсковы дзеяч і палітык, удзельнік збройнага змаганьня з бальшавікамі ў 1918—1920 гг., ахвяра нацысцкай расправы *128—129*
Булгакаў Валеры, філёзаф, рэдактар часопісу «ARCHE», удзельнік нацыянальна-дэмакратычнага руху 1990-х — пач. XXI ст. *602*
Буль П'ер, францускі пісьменьнік *560*
Бунін Іван, расейскі пісьменьнік *309*, *516*
Бураўкін Генадзь, паэт, удзельнік нацыянальна-дэмакратычнага руху 1990-х — пач. XXI ст. *434*, *466—467*, *555*
Бутрамееў Уладзімер, пісьменьнік *275*
Буш Джордж (старэйшы), прэзыдэнт ЗША *453*
Бушлякоў Юрась, мовазнавец, журналіст, перакладчык, удзельнік нацыянальна-дэмакратычнага руху 1990-х — пач. XXI ст., супрацоўнік Беларускай службы Радыё Свабода *602—603*
Бушлякоў Ян Міхал, сын Юрася Бушлякова й Тацяны Шаламіцкай *603*
Быкаў Васіль, народны пісьменьнік Беларусі *108*, *341*, *354*, *355*, *366—367*, *385*, *395*, *401*, *406*, *421*, *427*, *446*, *447*, *454*, *471*, *489*, *521*, *522*, *535*, *549*, *554*
Бэндэ Лукаш, савецкі літаратурны крытык, адзін з арганізатараў рэпрэсіяў супраць нацыянальнай інтэлігенцыі *240*, *241*
Бэнкендорф Аляксандар, генэрал, шэф жандараў III аддзяленьня *28*
Бябенін Алег, журналіст, удзельнік нацыянальна-дэмакратычнага руху 1990-х — пач. XXI ст. *572*
Бядуля Зьмітрок, пісьменьнік *302*, *304*
Бязьлепкіна Аксана, літаратуразнаўца *605*

Бялевіч Леў, удзельнік паваеннага антысавецкага Супраціву, вязень ГУЛАГу *403*
Бяляцкі Алесь, праваабаронца, літаратар *338*

## В

Вайвадзіш Эдвард, пісьменьнік *200, 345*
Вайніловіч Алена, дачка Эдварда Вайніловіча *81*
Вайніловіч Сымон, сын Эдварда Вайніловіча *81*
Вайніловіч Эдвард, гаспадарчы дзеяч, палітык, мэцэнат, прыхільнік нацыянальна-вызвольнага руху пач. XX ст. *80—81*
Вакулоўская Лідзія, пісьменьніца, перасьледаваная савецкімі спэцслужбамі *382—383, 426*
Валовіч Міхал, удзельнік вызвольнага паўстаньня 1831 г., камандзір партызанскага аддзелу ў 1833 г., ахвяра царскіх рэпрэсіяў *36—37*
Вальфсон Сямён, навуковец, адзін з арганізатараў рэпрэсіяў супраць нацыянальнай інтэлігенцыі *215*
Ван Эльвін, галяндзкі вынаходнік *28*
Ваньковіч Валенці, мастак, прыхільнік вызвольнага руху 1820-х *34—35*
Варонка Язэп, журналіст, палітык, старшыня першага Ўраду БНР, дзеяч даваеннай і паваеннай эміграцыі ў Літве й ЗША *166—167*
Васілёк Міхась, паэт, удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху 1920—1930-х у Заходняй Беларусі *185*
Васілеўскі Даніла, краязнаўца й пэдагог, вязень ГУЛАГу *158—159*
Васілеўскі Пётра, мастацтвазнаўца, журналіст *481, 567*
Васьняцоў Апалінары, расейскі мастак *69*
Васьняцоў Віктар, расейскі мастак *69*
Васючэнка Пятро, пісьменьнік, літаратуразнаўца *158*
Ваўжэцкі Тамаш, палітык, адзін з кіраўнікоў вызвольнага паўстаньня 1794 г. *20—21, 128*
Вашынгтон Джордж, прэзыдэнт ЗША *45*
Вераніцын Канстанцін, пісьменьнік *438*
Верас Зоська, пісьменьніца, грамадзка-культурніцкая дзяячка, удзельніца нацыянальна-вызвольнага руху пач. XX ст., нацыянальна-вызвольнага руху 1920—1930-х у Заходняй Беларусі й нацыянальна-культурніцкага руху 1960—1980-х *150, 190—191, 282, 329, 362, 363*
Верашчагін Васіль, расейскі мастак *99*
Вецер Элеанора, гісторык *387*
Вітан-Дубейкаўская Юліяна, пісьменьніца, удзельніца нацыянальна-вызвольнага руху пач. XX ст. *97, 144—145*

Вітан-Дубейкаўскі Лявон, архітэктар, паэт, удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху пач. XX ст. і нацыянальна-вызвольнага руху 1920—1930-х у Заходняй Беларусі *96—97, 145, 187*
Вітаўт, вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага *536*
Вітушка Міхал, вайсковы дзеяч, палітык, кіраўнік паваеннага збройнага антысавецкага Супраціву 1944—1950-х *290—291*
Вітушка Сяржук, гісторык, літаратар, пэдагог, удзельнік нацыянальна-дэмакратычнага руху 1980-х — пач. XXI ст. *592—593*
Вітэліюс Эразм, рэлігійны дзеяч, дыплямат *416*
Віцьбіч Юрка, пісьменьнік і гісторык, дзеяч паваеннай эміграцыі ў Нямеччыне й ЗША *142, 231, 276—277*
Вішнеўская Натальля, паэтка; перасьледаваная савецкімі спэцслужбамі *286—287*
Войкаў Пётар, расейскі рэвалюцыянэр *288, 289*
Войніч Ігар, музыка, навуковец, пэдагог, удзельнік нацыянальна-дэмакратычнага руху 1990-х — пач. XXI ст. *594*
Войцік Галіна, грамадзка-культурніцкая дзяячка, дачка Зоські Верас, жонка Лявона Луцкевіча *362*
Войчанка Сяргей, мастак *566—567*
Вольскі Артур, пісьменьнік і перакладчык, удзельнік нацыянальна-дэмакратычнага руху 1980-х — пач. XXI ст. *368—369*
Вольскі Віталь, пісьменьнік *369*
Вольскі Лявон, рок-музыка, літаратар, удзельнік нацыянальна-дэмакратычнага руху 1980-х — пач. XXI ст., сын Артура Вольскага *369*
Волян Андрэй, палітык, філёзаф, пісьменьнік *416*
Высоцкі Ўладзімер, расейскі сьпявак, актор, літаратар *469*
Вышынскі Стэфан, польскі рэлігійны дзеяч *611*
Вэрдзі Джузэпэ, італьянскі кампазытар *310*
Вярба Вера, паэтка *346*
Вярбіцкі Аўген, біяхімік, эмігрант *430*
Вярцінскі Анатоль, паэт, удзельнік нацыянальна-дэмакратычнага руху 1980-х — пач. XXI ст. *298*
Вярыга-Дарэўская Габрыеля, дачка Арцёма Вярыгі-Дарэўскага *53*
Вярыга-Дарэўскі Арцём, пісьменьнік, удзельнік нацыянальна-вызвольнага паўстаньня 1863—1864 гг., палітвысланец *52—53*
Вячорка Арына, гісторык, пэдагог, удзельніца нацыянальна-дэмакратычнага руху 1980-х — пач. XXI ст. *582—583*
Вячорка Вінцук, палітык, мовазнаўца, удзельнік нацыянальна-дэмакратычнага руху 1980-х — пач. XXI ст. *576, 582*
Вячорка Радаслава, дачка Арыны й Вінцука Вячоркаў *583*
Вячорка Ружана, дачка Арыны й Вінцука Вячоркаў *583*

Вячорка Францішак, сын Арыны й Вінцука Вячоркаў, журналіст, удзельнік нацыянальна-дэмакратычнага руху пач. XXI ст., супрацоўнік Беларускай службы Радыё Свабода *583*

## Г

Гавэл Вацлаў, палітык-дысыдэнт, пісьменьнік, прэзыдэнт Чэхіі *367*

Гадлеўскі Вінцэнт, сьвятар, палітык, перакладчык, удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху пач. XX ст. і нацыянальна-вызвольнага руху 1920—1930-х у Заходняй Беларусі, дзеяч нацыянальнага руху 1-й пал. 1940-х, ахвяра нацысцкай расправы *125, 154—155*

Гайдукевіч Аляксандар, дырэктар каледжу, дзе вучылася Ірына Завадзкая *585*

Гайнэ Генрых, нямецкі паэт *84, 314*

Галубовіч Леанід, пісьменьнік *475*

Галубок Уладзіслаў, тэатральны дзеяч, пісьменьнік, мастак, удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху пач. XX ст., першы народны артыст Беларусі, ахвяра сталінскіх рэпрэсіяў *122—123, 143, 190, 269*

Гамбровіч Вітальд, польскі пісьменьнік *603*

Гандзі Махандас, індыйскі палітык *530*

Ганчар Віктар, палітык, бясьсьледна зьнік у 1999 г. *247, 541*

Грановіч Віталь, паэт, пэдагог *546—547*

Гарацыюс, Квінт Гарацыюс Флак, рымскі паэт *416*

Гарбачоў Міхаіл, палітык, прэзыдэнт СССР *476, 478*

Гарошка Леў, рэлігійны й грамадзкі дзеяч, гісторык; перасьледаваны польскімі ўладамі ў 1930-х; дзеяч паваеннай эміграцыі ў Нямеччыне, Францыі, Італіі й Вялікабрытаніі *320—321, 336*

Гарсія Лёрка Фэдэрыка, гішпанскі паэт *454*

Гарсія Маркес Габрыель, калюмбійскі пісьменьнік *426, 586*

Гарулёў Юры, кінарэжысэр *335*

Гарун Алесь, паэт, удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху пач. XX ст., палітвысланец *134*, 206

Гарыбальдзі Джузэпэ, нацыянальны герой Італіі *45*

Гарэцкая Галіна, дачка Максіма Гарэцкага *205*

Гарэцкая Эўфрасіньня, маці Максіма й Гаўрыла Гарэцкіх *195*

Гарэцкі Гаўрыла, геоляг, географ, грамадзкі дзеяч, вязень ГУЛАГу *329*

Гарэцкі Іван, бацька Максіма й Гаўрылы Гарэцкіх *195*

Гарэцкі Леанід, сын Максіма Гарэцкага *205*

Гарэцкі Максім, пісьменьнік і літаратуразнаўца, удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху пач. XX ст., ахвяра сталінскіх рэпрэсіяў *130*, *168*, *176*, *196*, *194—195*, *204*, *205*, *216*, *234*, *267*, *302*, *304*, *362*, *526*
Гарэцкі Радзім, геоляг, грамадзкі дзеяч, удзельнік нацыянальна-дэмакратычнага руху 1980-х — пач. XXI ст. *195*, *329*
Геніюш Ларыса, паэтка, дзяячка даваеннай эміграцыі ў Чэхаславаччыне, вязень сталінскіх лягераў, маральны лідэр незалежнага беларускага грамадзтва 1960—1980-х *107*, *132*, *138*, *250*, *251*, *259*, *312—313*, *316*, *386*, *387*, *390*, *432*, *442*, *460*, *461*, *486*, *497*, *509*
Геніюш Міхась, сын Юркі Геніюша *461*
Геніюш Юрка, пісьменьнік, аб'ект увагі польскіх і савецкіх спэцслужбаў *460—461*
Геніюш Янка, мэдык, вязень ГУЛАГу *250—251*, *312*, *432*, *460*
Герасіменка Вольга, сястра Генадзя Кулажанкі *551*
Германовіч Язэп (Вінцук Адважны), сьвятар, пісьменьнік, вязень ГУЛАГу, дзеяч паваеннай эміграцыі ў Вялікабрытаніі *336*
Гермянчук Ігар, журналіст, палітык, удзельнік нацыянальна-дэмакратычнага руху 1980-х — пач. XXI ст.; у 2-й пал. 1990-х перасьледаваны ўладамі *572*, *580—581*, *588*
Герцэн Аляксандар, расейскі рэвалюцыянэр, пісьменьнік, філёзаф *55*, *72*, *92*
Гётэ Ёган Вольфганг, нямецкі пісьменьнік *423*
Гілевіч Ніл, народны паэт Беларусі *540*
Гільен Нікаляс, кубінскі паэт *454*
Гінзбург Яўгенія, расейская пісьменьніца *348*
Глебаў Яўген, кампазытар, народны артыст Беларусі *420—421*
Глебка Пятро, пісьменьнік *286*
Глобус Адам, пісьменьнік, мастак, выдавец, удзельнік нацыянальна-дэмакратычнага руху 1980-х — пач. XXI ст. *445*, *567*
Гогаль Мікалай, расейскі пісьменьнік *445*, *528*, *554*
Горкі Максім, расейскі пісьменьнік *299*
Горын Павал, савецкі гісторык, ахвяра сталінскіх рэпрэсіяў *117*
Горын Рыгор, расейскі пісьменьнік *275*
Грабава Натальля, сястра Андрэя Грабава *568*, *569*
Грабаў Андрэй, паэт, аўтар непадцэнзурных тэкстаў, удзельнік нацыянальна-культурніцкага руху 1970-х; перасьледаваны савецкімі спэцслужбамі; загадкава загінуў *568—569*
Грабоўскі Стафан, вайсковы дзеяч, адзін з кіраўнікоў вызвольнага паўстаньня 1794 г. *24—25*
Грахоўскі Сяргей, пісьменьнік, вязень ГУЛАГу *287*, *300*, *329*
Гроднеў Мікола, пісьменьнік, брат Васіля Гроднікава *485*

Гроднікаў Васіль, журналіст, ахвяра нераскрытага забойства *484—485*, *572*

Грубэр Габрыель, вучоны-энцыкляпэдыст XVIII — пач. XIX ст. *34*

Грушавы Генадзь, філёзаф, палітык, старшыня дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобылю», удзельнік нацыянальна-дэмакратычнага руху 1980-х — пач. XXI ст. *544—545*

Грыб Тамаш, палітык, публіцыст, удзельнік нацыянальна-вызвольнага й сацыялістычнага руху пач. XX ст., дзеяч даваеннай эміграцыі ў Літве й Чэхаславаччыне *156*, *203*, *210—211*, *215*

Грын Аляксандар, расейскі пісьменьнік *158*

Грыневіч Тацяна, сьпявачка, удзельніца нацыянальна-дэмакратычнага руху пач. XXI ст. *595*

Грынеўскі Стафан, удзельнік нацыянальна-вызвольнага паўстаньня 1863—1864 гг., палітвысланец, бацька Аляксандра Грына *158*

Грынявіцкі Ігнат, беларускі рэвалюцыянэр-народаволец *86—87*

Грыцкевіч Анатоль, гісторык, грамадзкі дзеяч, удзельнік нацыянальна-дэмакратычнага руху 1980-х — пач. XXI ст. *412—413*

Грыцкевіч Валянцін, гісторык, грамадзкі дзеяч, удзельнік нацыянальна-дэмакратычнага руху 1980-х — пач. XXI ст. *413*

Грыцкевіч Юхно, рыцар, продак Анатоля й Валянціна Грыцкевічаў *413*

Грышкевіч Францішак, культурніцкі дзеяч, ахвяра сталінскіх рэпрэсіяў *215*

Гуджэроці Кляўдыё, папскі нунцый *413*

Гумянюк Юры, пісьменьнік, журналіст, удзельнік нацыянальна-дэмакратычнага руху 1990-х — пач. XXI ст. *598—599*

Гуно Шарль, францускі кампазытар *310*

Гурко (Шаблюк) Тацяна, эмігрантка, сястра Валерыя Шаблюка *559*

Гусоўскі Мікола, паэт-гуманіст *416*, *423*, *429*, *481*

Гэмінгўэй Эрнэст, амэрыканскі пісьменьнік *194*

Гэрбэрт Зьбігнеў, польскі паэт *603*

## Д

Дакальская Галіна, мастачка-эмігрантка *440*

Дамашэвіч Уладзімер, пісьменьнік, удзельнік нацыянальна-дэмакратычнага руху 1980-х — пач. XXI ст. *406—407*

Дамейка Ігнат, геоляг, мінэроляг, удзельнік вызвольнага руху 1820-х і нацыянальна-вызвольнага паўстаньня 1831 г., палітэмігрант, нацыянальны герой Чылі *32*

Даніэль Юлі, расейскі пісьменьнік-дысыдэнт, палітвязень *388*

Даноўскі Флярыян, удзельнік вызвольнага руху 1840-х і нацыянальна-вызвольнага паўстаньня 1863—1864 гг., паліткатаржанін і палітвысланец *62—63*
Данчык (Багдан Андрусішын), сьпявак, журналіст, супрацоўнік Беларускай службы Радыё Свабода *190, 280, 308, 309, 433*
Даргамыскі Аляксандар, расейскі кампазытар *142*
Даўжэнка Аляксандар, савецкі кінарэжысэр і драматург *469*
Джэфэрсан Томас, прэзыдэнт ЗША *18, 44*
Дземідовіч Надзея, вязень ГУЛАГу *400, 401*
Дзюба Іван, украінскі літаратуразнаўца, дысыдэнт, палітвязень *442*
Дзюрэнмат Фрыдрых, швайцарскі пісьменьнік *554*
Дзягілева Галіна, акторка, рэжысэрка *145*
Дзям'янка Антоні, рэлігійны дзеяч, біскуп *253*
Дзянікін Антон, расейскі генэрал, адзін з кіраўнікоў белагвардзейскага руху *186*
Дзянісава Аўгіньня, сялянка, удава расстралянага ў 1930-х «ворага народу», бабуля аўтара кнігі *614—615*
Дзянісава Марыя, пэдагог, маці Ўладзімера Арлова *198*
Дзянісаў Максім, дзед Уладзімера Арлова, ахвяра сталінскіх рэпрэсіяў *149, 162, 614*
Дзянісаў Тамаш, дзядзька Ўладзімера Арлова *211*
Дзяргач (Вячка Адамовіч), удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху пач. XX ст., літаратар *244*
Дмахоўскі Генрык, скульптар, палітэмігрант, удзельнік вызвольных паўстаньняў 1831 і 1863—1864 гг. *44—45*
Доўнар-Запольскі Мітрафан, гісторык, адзін з заснавальнікаў беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі, удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху пач. XX ст.; перасьледаваны савецкімі спэцслужбамі *92—93, 282, 526*
Драздовіч Язэп, мастак, пісьменьнік, этнограф і археоляг, удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху пач. XX ст. і нацыянальна-вызвольнага руху 1920—1930-х у Заходняй Беларусі *152—153, 192, 521, 541*
Драчоў Пятро, мастак, удзельнік нацыянальна-дэмакратычнага руху 1980-х — пач. XXI ст. *476—477*
Дубавец Сяргей, літаратар, журналіст, выдавец, удзельнік нацыянальна-культурніцкага руху 1980-х і нацыянальна-дэмакратычнага руху 1980-х — пач. XXI ст. *347, 427, 465, 588*
Дубінка Вячаслаў, мастак, пісьменьнік, журналіст, удзельнік нацыянальна-культурніцкага руху 1960—1980-х і нацыянальна-дэмакратычнага руху 1980-х — пач. XXI ст. *504—505*
Дубоўка Ўладзімер, паэт і перакладчык, вязень ГУЛАГу *146, 234, 235, 240—241, 268, 302, 304, 462*

Дубянецкі Міхал, кнігавыдавец і перакладчык, грамадзкі дзеяч, удзельнік нацыянальна-дэмакратычнага руху 1980—1990-х *394—395*

Дудар Алесь, паэт, ахвяра сталінскіх рэпрэсіяў *234*, *268—269*, *286*

Дудзіцкі Ўладзімер, пісьменьнік, вязень ГУЛАГу, дзеяч паваеннай эміграцыі ў Нямеччыне, Вэнэсуэле й ЗША, супрацоўнік Беларускай службы Радыё Свабода; бясьследна зьнік у 1970-я *318—319*, *323*

Дуж-Душэўскі Клаўдзі, палітык, дзеяч руху пач. ХХ ст., стваральнік эскізу нацыянальнага сьцягу, дзеяч даваеннай эміграцыі, вязень польскіх, нацысцкіх і савецкіх турмаў і канцлягераў *164—165*

Думбадзэ Надар, грузінскі пісьменьнік *471*

Дунін-Марцінкевіч Вінцэнт, пісьменьнік, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры, удзельнік нацыянальна-вызвольнага паўстаньня 1863—1864 гг. *53*, *70*, *84*, *120*, *143*, *148*

Дыкінсан Эмілі, амэрыканская паэтка *299*

Дыла Язэп, грамадзкі дзеяч, пісьменьнік, палітвысланец *77*, *151*

Дэ Кастэр Шарль, бэльгійскі пісьменьнік *205*

Дэмух Мікола, удзельнік паваеннага збройнага антысавецкага Супраціву 1940-х *350—351*

Дэнікен Эрых, нямецкі рэжысэр *342*

## Е

Езавітаў Кастусь, палітык, вайсковы й грамадзкі дзеяч, удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху пач. ХХ ст., дзеяч даваеннай эміграцыі ў Латвіі, ахвяра сталінскіх рэпрэсіяў *197*, *200—201*, *313*

Екель Леанід, журналіст *349*

Емяльянава Міхаліна, дачка Алеся Емяльянава *549*

Емяльянаў Алесь, паэт, удзельнік нацыянальна-дэмакратычнага руху 1980—1990-х *548—549*

Емяльянчык Павал, сын Уладзімера Емяльянчыка *565*

Емяльянчык Уладзімер, гісторык, удзельнік нацыянальна-дэмакратычнага руху 1980-х — пач. ХХІ ст. *564—565*

Ермаловіч Мікола, гісторык, аўтар і выдавец непадцэнзурных тэкстаў, удзельнік нацыянальна-культурніцкага руху 1960—1980-х і нацыянальна-дэмакратычнага руху 1980—1990-х *329*, *358—359*

Еўтушэнка Яўген, расейскі паэт *498*

## Ё

Ёрш Сяргей, гісторык, удзельнік нацыянальна-дэмакратычнага руху 1990-х — пач. XXI ст. *291*

## Ж

Жанна д'Арк, народная гераіня Францыі *38*, *39*
Жарнасек Ірына, пісьменьніца, удзельніца нацыянальна-дэмакратычнага руху 1980-х — пач. XXI ст. *161*, *562*
Жаромскі Стэфан, польскі пісьменьнік *515*
Ждановіч Валерыя, дачка Валянціна Ждановіча *482*
Ждановіч Валянцін, журналіст і фотамастак, удзельнік нацыянальна-дэмакратычнага руху 1980—1990-х *482—483*
Жмачынскі Ян, удзельнік нацыянальна-вызвольнага паўстаньня 1863—1864 гг., ахвяра царскіх рэпрэсіяў *71*
Жук Павал, вязень ГУЛАГу, удзельнік нацыянальна-дэмакратычнага руху 1980-х — пач. XXI ст. *408—409*
Жук-Грышкевіч Вінцэнт, палітык, дзеяч паваеннай эміграцыі ў Вялікабрытаніі й Канадзе, у 1970—1982 гг. старшыня Рады БНР *323*
Жук-Грышкевіч Раіса, дзяячка паваеннай эміграцыі ў Канадзе *316*, *317*
Журба Янка, паэт, удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху пач. XX ст. *118—119*
Жыгімонт Аўгуст, вялікі князь літоўскі і кароль польскі *594*
Жыгулін Анатоль, расейскі пісьменьнік *329*
Жызьнеўскі Міхал, герой Эўрапейскай рэвалюцыі ва Ўкраіне *612—613*
Жылка Ўладзімер, паэт, ахвяра сталінскіх рэпрэсіяў *230*
Жэрар П'ер, францускі мастак *40*

## З

Забэйда-Суміцкі Міхал, сьпявак, аб'ект увагі савецкіх спэцслужбаў *107*, *110*, *236—237*, *267*
Завадзкая Ірына, удзельніца «Менскай вясны — 2006», дачка Юрыя Завадзкага *584*, *585*
Завадзкі Зьміцер, журналіст, ахвяра нераскрытага забойства *249*, *572*
Завадзкі Юры, прадпрымальнік, удзельнік «Менскай вясны — 2006» *584—585*
Завальнюк Уладзіслаў, сьвятар, грамадзка-культурніцкі дзеяч *81*
Завіша Артур, удзельнік нацыянальна-вызвольнага паўстаньня 1831 г. *37*
Завіша Ян, археоляг *88*

